ГОД XII ВЕРАСЕНЬ-ЖНІВЕНЬ № 86
1964

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ

## ON GOD'S HIGHWAY

Year XII September-October № 86
1964

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE., LONDON, N. 12
ENGLAND

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1964 г.:

**У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.**

**У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.**

**У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.**

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinojs, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

УВАГА: Да ўсіх беларускіх выдавецтваў зьвертаемся з просьбай прысылаць у нашу Рэдакцыю свае выданьні газэтаў, часапісаў, друкаў. Мы будзем сыстэматычна зьмяшчаць іхні агляд і даваць рэцэнзіі.

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

## ЗЬМЕСТ

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год. XII | ВЕРАСЕНЬ-ЖНІВЕНЬ | № 86

# Першая энцыкліка найвышэйшага пастыра Паўла VI

*ДА ЎСЯГО ЭПІСКАПАТУ, ДА ДУХАВЕНСТВА І ДА ЎСІХ ВЕРНІКАЎ І ДА ЎСІХ ЛЮДЗЕЙ ДОБРАЙ ВОЛІ: „ECCLESIAM SUAM...“*

*ЗЬМЕСТ ЭНЦЫКЛІКІ:*

*«Царкву сваю Ісус Хрыстос дзеля таго ўстанавіў, каб была ласкавай Маткаю ўсіх людзей і Спадарыняй збаўленьня». Так пачынаецца Энцыкліка: гэта ёсьць першы Пастырскі Ліст папы да каталікоў і да ўсяго сьвету.*

*У гэтай Энцыкліцы парушаныя справы, якімі займаецца Сабор, асабліва «дыялёг паміж Царквою і сьветам»: як уладзіць адносіны, каб сьвет прыблізіць да Бога, каб чалавецтва шукала згоды і міру, каб усе стараліся ўзнавіць сваё сумленьне і ўзмацніць веру.*

*Усе ахрышчаныя павінны разумець, чым ёсьць х р о с т: чалавек нанава родзіцца — для Бога, для збаўленьня: становіцца Божым дзіцяткам, Хрыстовым братам і прыбыткам Сьв. Духа, і мае права да неба, калі ня страціць яго праз грэх.*

*Царква павінна быць такою, якой хацеў яе мець Хрыстос: калі закрадаюцца памылкі, павінна абнаўляцца. Павінна рэфармавацца ўкрок з новым сьветам, але ня ў духу «гэтага сьвету».*

*Поўны ідэал хрысьціяніна можам асягнуць праз Д з е в у  М а р ы ю: Яна Сама была найдасканалейшай Хрысьціянкай. Сяньня культ Дзевы Марыі пабуджае нас да сьвятасьці; Яна ёсьць абразом і люстрам сьвятасьці: «поўная Божай ласкі» — умнажалася ў цнотах і нам дала прыклад, як служыць і любіць Бога. І «за нас грэшных моліцца цяпер і ў часіну сьмерці нашай. Аман».*

*Трэба весьці д ы я л ё г са сьветам, каб пацягнуць яго да Бога. Варункі дыялёгу: яснасьць, давер і растаропнасьць.*

*Гаварыць з Братамі адлучанымі, з атэістымі, з веруючымі ў аднаго Бога і з камуністымі.*

*Гаварыць і заклікаць да міру на ўсім сьвеце.*

*Выясьняць справу Каталіцкай Царквы і Папскага прымату і аб патрэбе лучнасьці хрысьціянства.*

*Апэль да Біскупаў: вялікая праца пачынаецца сягоньня і ня кончыцца ніколі: праца з Богам і дзеля Божай славы і на карысьць сьвету.*

*Энцыкліка канчаецца багаслвенствам Апостальскім — у Імя Госпада — якое разліваецца на ўсю Царкву і на усё чалавецтва.*

*З Ватыкану ў Рыме, 6 жніўня 1964*

*ПАПА ПАВАЛ VI*

---

РЭХА ПРЭСЫ АБ ПЕРШАЙ ЭНЦЫКЛІЦЫ

Ф р а н ц ы я. Катал. газэта „La Crois“ аналізуе ўсе тры часткі Энцыклікі. Піша, што ў І Сумленьне, у ІІ Аднаўленьне і у ІІІ Дыялёг — гэта ёсьць імкненьне Паўла VI *каб пазнаць лепш Царкву* — яе значэньне, адносіны да Хрыста; што Царква ёсьць «містычнае Цела Хрыстова».

II. Аднаўленьне ў Царкве: Трэба ісьці ўкрок з поступам у сьвеце, але не праймацца духам «гэтага сьвету». Рэформы вядзе перад'усім Ватыканскі Сабор.

III. Абавязак эвангэлізацыі, місіі, апостальства: ня толькі трэба нам захаваць скарб веры і дабра, які мы ад Хрыста атрымалі, але пашыраць яго ў сьвеце. Дзеля таго трэба ўвайсьці у дыялёг са сьветам.

*(Заканчэньне на бач. 2)*

# З НАГОДЫ СУСЬВЕТНАГА САБОРУ

*14-га верасьня, у сьвята праслаўленьня сьв. Крыжа, урачыста распачалася трэцяя сэсія II-га Ватыканскага Сабору. Ізноў вялізарная базыліка першавярхоўнага Апостала зацьвіла фіялетамі, пурпурай ды іншымі колерамі дастойных іерархаў з усіх краінаў сьвету, розных абрадаў, а нават і розных веравызнаньняў.*

*Тыя літургічныя зьмены, якія былі прынятыя на ранейшых сэсіях Сабору, на пачатку гэтай сэсіі былі зьдзейсьненыя: на вачох усяго сьвету Папа Павал VI саслужыў сьв. Літургію ў рымскім абрадзе разам з 24-мя Айцамі Сабору. Гэты сьвяты абрад трываў каля паўтары гадзіны і адзначаўся прастатой, павагай і малітаўным настроем. Ён у шмат чым прыпамінаў саслужэньне, якое практыкуецца сярод каталікоў і праваслаўных хрысьціянаў бізантыйскага абраду.*

*Другі Ватыканскі Сабор паставіў сабе заданьне — аднавіць дух Хрыста ў Царкве, аб'яднаць падзеленых між сабой хрысьціян, прабудзіць рэлігійнае пачуцьцё на сьвеце, спрычыніцца да таго, каб заўладалі справядлівасьць і супакой.*

*Працы і натугі Сабору абымаюць патрэбы ўсяго сучаснага сьвету, а таму і нашы беларускія. Хто-ж больш патрабуе справядлівых дачыненьняў да сябе, як ня нашая дарагая Беларусь? Ці-ж не яе жывое цела розныя чужынцы рвалі на кускі, калечылі і таптвалі ў час розных ворнаў?*

*Каму-ж больш патрэба рэлігійнай еднасьці, як ня нам беларусам? Супроць волі і пераканаьня нашых прадзедаў нас дзялілі і злучалі, у насьледак чаго астаўся ў нашых душах недавер адзін да другога. Бяда нам, асабліва на чужыне, калі і надалей мы астаёмся пры дробных спрэчках за абрад ці юрысдыкцыі: — нам пагражае вялікая небясьпека рэлігійнай абыякавасьці, затраты Хрыстовай веры, або раздарожжа сэктанцкага раздробленьня.*

*Папа, адчыняючы трэцюю сэсію Сабору, горача вітаў абсэрватараў-прадстаўнікоў розных веравызнаньняў, сярод якіх нажаль нашых беларускіх іерархаў ня было ...*

*Мы пераконаныя, што нашыя сьвецкія людзі як на Бацькаўшчыне, так і на чужыне, шчыра жадаюць царкоўнай еднасьці. Было-б вялікім грэхам супроць Сьв. Духа, супроць экумэнічнай плыні нашых часоў, супроць патрэбы злучэньня натугаў у барацьбе з бязбожжам, калі-б з боку іерархіі і духавенства ня былі зробленыя адпаведныя крокі ў напрамку да той сьвятой і вялікай ідэі, «каб усе былі адно».*

*На самым пачатку трэцяй — і магчыма апошняй — сэсіі Ватыканскага Сабору зьвяртаемся з шчырай просьбай да ўсіх нашых братоў і сёстраў, каб помнілі ў сваіх малітвах адказную працу Сабору і яго ўдзельнікаў.*

*Жаданьнем Папы Паўла VI, выказаным у пісьме да Кардынала Тысэран, ёсьць, каб «такая незвычайная нагода, якой зьяўляецца Усяленскі Сабор, была пераджытая ў нутраным засяродзьдзі, у нягаснучай палкасьці духа, у пакорнай пабожнасьці, з поўнай аданасьцю Хрыстовай ідэі, з чуткай уважлівасьцю да патрэбаў Царквы і сьвету».*

*Спадзяёмся, што жаданьні Папы і нашая пакорная просьба дасягнуць людзей добрай волі і што гэты Сабор прыдбае шмат дабра для Царквы і сьвету.*

*† Часлаў Сіповіч*

*Апостальскі Візытатар для Беларусаў*

*Тыт. Біскуп Марыямітанскі,*

## РЭХА ПРЭСЫ АБ ПЕРШАЙ ЭНЦЫКЛІЦЫ

*(Працяг зь 1 бач.)*

З гэтым лучыцца справа міру ў цэлым сьвеце, каб сьвет трапіў пагадзіцца, а не працаваў на сваю згубу.

*

Наагул *прэса каталіцкая* падкрэсьлівае моцную веру Паўла VI, яго поўную надзею і гарачую любоў Хрыста: папа жадае ўвесь сьвет пацягнуць да лучнасьці ў веры, надзеі і любові. Папа Павал ідзе дарогай вытычанай праз Яна XXIII.

Пратэстанты і праваслаўныя паказываюць некаторую рэзэрву ў Энцыкліцы аб Царкве. Кажуць, што папа Павал якбы крыху сумневаецца ў прапановах і не такі ясны як Ян, а ў дыялёгу занадта асьцярожны.

Камуністыя выказваюць задаваленьне, што Павал VI ня зрывае дыялёгу, але занепакоены тым, што *папа асудзіў «атэістычны камунізм».*



*Саслужэньне св. Літургіі у лацінскім обрадзе у дзень адчыненьня Трэцяй Сэсіі Ватыканскага Сабору 14. IX. 1964*

# Папа Ян XXIII і яго апошняя энцыкліка

(ПРАЦЯГ)

ЧАСТКА І-ая

## ПАРАДАК СЯРОД ЛЮДЗЕЙ

Кажнае грамадзтва мусіць прызнаваць той прыродны прынцып-правіла, што чалавек ёсьць *Асоба,* якая мае належнае права і абавязкі. Маючы несьмяротную душу, чалавек карыстае з розуму і вольнай волі, — дык ніхто ня можа беспадстаўна адымаць ад яго ані правоў, ані абавязкаў. А мы хрысьціяне ведаем, што чалавек — створаны Богам і адкуплены Божым Сынам, мае яшчэ правы і абавязкі надпрыродныя, як Божае дзіця.

## ПРАВА

Найперш маемо права *жыць-існаваць,* гэта значыць, каб ніхто ня сьмеў беспадстаўна нас крыўдзіць, і каб мы мелі з чаго жыць і каб былі абасьпечаны на час хваробы, інваліднасьці, старасьці, беспрацоўя, ці няшчасьця.

Так сама маемо маральнае і культурнае права — на добрае імя, на пашану, на вольнасьць шукаць праўды, выказываць свае думкі, служыць грамадзтву ў адносінах культуры, мастацтва, інфармацыі. Права здабываць культуру, навуку, прафэсію. Права палітычнага жыцьця. Права, каб кажны мог здабываць і займаць адпаведнае сваёй здольнасьці месца ў грамадзтве і ладзіць сваё жыцьцё вольна.

Права *сумленьня:* кажны мае права служыць і хваліць Бога, як яму дыктуе сумленьне — прыватна і публічна. Ніхто ня мае права забаранясь, абмяжоўваць, высьмейваць, ці прасьледаваць Божую службу: у абароне гэтага права апосталы аддалі ўсе свае сілы і сваё жыцьцё.

Права выбіраць *стан жыцьця:* асабістага і сямейнага. Закладываць сям'ю ці аставацца бязжэнным — ісці ў стан духоўны ці законны. Неразрыўная сям'я — гэта першая цагліна ў будове грамадзтва. Дзеля таго трэба спэцыяльна рупіцца аб матар'яльнае і маральнае дабро сям'і. Бацькі маюць першае права жывіць і выхоўваць дзяцей.

Права вольнай *ініцыятывы* ў экономіі і права на *працу.* З гэтым зьвязана — даваць адпаведныя ўмовы працы і жыцьця, здароўя цела і душы і для поўнага разьвіцьця падрастаючых. А для жанчын — права, згоднае з патрэбамі жонак і матак.

Так-жа права *адказнасьці* за экономію краю. І асабліва права справядлівай *платы* за работу, каб чалавек мог пражыць і абяспечыць сябе і сям'ю на ўзроўні людзкіх патрэбаў — гэта ёсьць так званае права векавое-*прыроднае.*

З гэтага выплывае права *ўласнасьці* сваёй прыватнай, адпаведныя працэнты з вытворчасьці, каб людзі маглі, працуючы, разьвівацца эканамічна, культурна і духова — асабіста і сямейна.

Чалавек мае прыроднае права вольна лучыцца ў таварыствы, *гуртавацца* з другімі людзьмі — для абароны сваіх інтарэсаў, здароўя, культуры, рэлігіі, экономіі і інш.

Права на *эміграцыю і іміграцыю:* перамяняць працу, шукаць працы ў другіх грамадах, ці палітычных установах. Значыць, прымус і тэрор, перагон зь месца, ці працы, пярэчыць прыроднаму праву вольнага чалавека.

Права *палітычнага* характару: вольнасьць тварыць і належаць да сваіх (няшкодных для дзяржавы) партыяў. Права да *юрыдычных* прывілегіяў і ўстановаў і поўная роўнасьць перад правам; права юрыдычнай аховы і абароны перад нападкамі і бясправуем адміністрацыі, ці прыватных асобаў.

## АБАВЯЗКІ

(Кажны лёгка чытае аб сваіх правох, але Энцыкліка далей гаворыць аб абавязках, якія цяжаць над кажным чалавекам. Зьмест даём у парафразе).

Людзі маюць ня толькі правы, але і *абавязкі:* калі маемо права жыць, дык маемо абавязак *захаваць* і *разьвіваць* жыцьцё. Калі маемо права волі і свабоды, дык маемо абавязак шанаваць права і *свабоду другіх людзей.* Калі-б хто бараніў сваю волю і права, а нарушаў чужую волю і права, ці належны парадак і строй у сям'і ці грамадзтве, такі чалавек быў-бы падобны таму, хто адною рукою будуе, а другою руйнуе . . . Належыць уважаць чужое права, асобу чалавека, патрэбы другіх, асабліва слабейшых і разважна клапаціцца дзеля ўзаемнага і агульнага дабра.

Сумеснае жыцьцё трэба ладзіць на *праўдзе, справядлівасьці, любові* і *свабодзе.* Толькі для зьвяроў патрэбныя клеткі, загародкі, ланцугі і

путы. А людзі, што жывуць пад Божым Законам, павінны кіравацца розумам і сумленьнем: не тварыць таго, што самому ня міла, а прычыняцца да грамадзкага дабра і шчасьця. Але нельга асягнуць поўнай праўды, справядлівасьці і волі інакш, як толькі абапёршыся аб Божую праўду і справядлівасьць і волю.

Нашая эпоха мае *тры новыя зьявішчы:* 1) *работнік* перастаў быць загнанай жывёлай, як было калісьці. Ён дамагаецца поўнага *права* — ня толькі да справядлівай платы, але да культурнага і дастатковага жыцьця і абясьпячэньня сябе і сям'і, права так-жа рэлігійнага, нацыянальнага і палітычнага.

2) *Жанчына* ўвайшла ў сацыяльнае жыцьцё: яна дамагаецца поўнага права быць вольным чалавекам. Жанчына ведае сваю годнасьць і *роўнасьць.*

3) *Новыя народы* ўвайшлі ў людзкую сям'ю: яны дамагаюцца поўнае волі і *роўнасьці,* хочуць строіць сваю волю *самі,* незалежна ад націску суседзяў, ці чужынцаў. Вольнасьць і роўнасьць мовы, сваіх звычаяў, рэлігіі і палітычнага ўкладу.

У людзей, што былі дасюль пад'ярэмнымі, падданымі, нявольнымі, цяпер зьнікла пачуцьце нізкапаклонства, лісьлівасьці, нясьмеласьці і баязьлівасьці. Некаторыя народы, што тысячы гадоў прабывалі ў падданстве, раптам дайшлі да поўнае волі — аж ім замуцілася ў галаве ад неспадзеванага шчасьця!

I вось па ўсім сьвеце прабегла думка і вестка, што *ўсе людзі* сапраўды маюць права быць *сабою,* паводле прыроднага і Божага Закону, а дасюлешнія валадары мусяць новы парадак прыняць і захоўваць.

А калі ў сумесным жыцьці людзі ўзгодняць сваё правы і абавязкі, тады адносіны на сьвеце ўложацца нармальна паводле *праўды, справядлівасьці, любові* і *свабоды.* Але гэта магчыма толькі з *Богам.*

(Працяг в наступным нумары)

# ФОНД РАЗБУДОВЫ

## ШКОЛЫ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў ЛЁНДАНЕ

ГЭТЫМ ЗЬВЯРТАЕМСЯ ДА ЎСІХ СУРОДЗІЧАЎ З ГАРАЧАЙ ПРОСЬБАЙ ДАПАМАГЧЫ САБРАЦЬ ГРОШЫ НА РАЗБУДОВУ НАШАЙ БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ Ў ЛЁНДАНЕ.

МАЕМО ЎЖО БОЛЬШ КАНДЫДАТАЎ ЧЫМ МЕСЦА, ДЗЕЛЯ ТАГО НЕАБХОДНА ПРЫСТУПІЦЬ ЧЫМ ХУТЧЭЙ ДА ПАБУДОВЫ НОВАГА ДОМУ.

ПАТРЭБА НАМ САБРАЦЬ 30.000 АНГ. ФУНТАЎ. АДПАВЕДНЫ ПЛЯЦ ДЛЯ ШКОЛЫ Ў НАС УЖО ЁСЬЦЬ.

БРАТЫ! ВЯЛІКАЯ МЭТА ПЕРАД НАМІ: ДАПАМАЖЭЦЕ!

Усе ахвяры просім прысылаць на адрас Кіраўніка школы:

**Rev. J. Hermanovič, Marian House, Holden Avenue , London. N. 12, England.**

*† ЧЭСЛАЎ СІПОВІЧ*
*Бп. тыт. Марыямітанскі*
*Апостальскі Візытатар Беларусаў*

*а. Леў Гарошка, Рэктар*

*а. Язэп Гэрмановіч*

*а. Аляксандар Надсон*

# Аднаўленьне супрасьльскіх фрэскаў

Аднэй з вельмі сумных падзеяў ў культурнай галіне ў часе апошняй вайны было бязсэнсавае зьнішчэньне старой і надзвычай прыгожай Благавешчанскай царквы Супрасьльскага манастыра. Гэты скарб пазьнейшага сярэднявяковага беларускага мастацтва быў сьведама ўзарваны дынамітам у 1944 г. нямецкімі акупа-



Супрасьль—*Даўнейшая царква: паліхромія на філяры*

цыйнымі ўладамі, якія стараліся зьнішчыць ўсе сьляды ненямецкай культуры на ўсходніх землях прылучаных да Трэйцяга Райху. Сама царква пацярпела найбольш ад вандальскага чыну, у тым часе як манастырскія будынкі у барокавым стылю разам з брамаю з XVII-га стаг. захаваліся лепш.

З зьнішчэньнем Благавешчанскай царквы ў Супрасьлі прапаў яшчэ адзін рэдкі прыклад бізантыйска-гатыцкага будаўніцтва, якое так добра адлюстроўвае характар беларускай культуры. Пышны барокавы іканастас быў таксама зруйнаваны дашчэнту, але перадусім пацярпелі насьценныя фрэскі. Гэтыя фрэскі, якія ў прошлым былі нярaз тандэтна рэстаўраваныя, замалёўваныя і нават пакрываныя пазьнейшымі манумэнтамі у сумніўным смаку, — былі выдатным прыкладам беларускага мастацтва з часоў залатой пары беларускай культуры ў XVI-тым стаг. Яны былі выкананыя недзе каля 1550 г. на загад архімандрыта Кімбара, праўдападобна мясцовымі мастакамі пад кіраўніцтвам сэрбскага майстра.

У катастрофе 1944 г. амаль усе фрэскі вонкавых сьценаў, сярод якіх былі цудоўныя абразы з жыцьця Ісуса Хрыста (Народзіны, Стрэцяньне, Прэабражэньне, зыход сьв. Духа), згінулі назаўсёды. На шчасьце, акупанты не пасьпелі дакончыць свайго дзела і пасьля вайны асталіся цэлымі калённы падстрэшных лукаў разам з фрэскамі, якія іх упрыгожвалі. Гэтыя фрэскі, разам з кускамі малюнкаў знойдзеных сярод руінаў, былі асьцярожна зьнятыя і перавезеныя у Працоўню Кансэрвацыі Забыткаў пры Польскім Інстытуце Мастацтва ў Варшаве дзеля рэстаўрацыі. Астаўшыяся разваліны былі, незразумела чаму, зраўнаныя з зямлёю польскімі ўладамі ў 1958 г., так што цяпер там не асталося нічога, акрамя падвалінаў гістарычнай царквы.

Праца над рэстаўрацыяй фрэскаў пасунулася ўжо далёка наперад. Над ёй працуе група спэцыялістых пад кіраўніцтвам праф. Багдана Марконі. Тры амаль зусім непашкоджаныя фрэскі, якія прадстаўляюць розных сьвятых, ужо аднооўленыя і іх цяпер можна аглядаць у музэі ў



*Хрыстос з Самаранкай*

Беластоку. Уся рэстаўрацыя мае быць закончаная ў 1965 г. і тады аднаўленыя фрэскі будуць перавезеныя ў Беласток.



*Фрагмэнт*

У часе рэстаўрацыі было сабрана шмат цікавых вестак аб паходжаньні і тэхніцы старых супрасьльскіх мастакоў. Пазьнейшыя тандэтныя рэтушы былі ачышчаныя і выявілі пад сабою арыгінальныя творы. Пігмэнты і плястар былі падданыя хімічнаму аналізу. Інфрачырвоныя і ультра-фіялетавыя фатаграфіі дапамаглі вылучыць мастацкія прыёмы маляроў. Ужо было ўстаноўлена, што існуюць паважныя розьніцы паміж мэтадам і стылем супрасьльскіх майстроў і літоўскіх (беларускіх) мастакоў, якія малявалі капліцы ў Кракаве, Любліне і Сандоміры. Ёсьць надзея, што хутка ўдасца ўстанавіць, калі не асобаў, то прынамсі дакладнае паходжаньне супрасьльскіх мастакоў, чые астаўшыяся творы так старанна цяпер аднаўляюцца, каб паказаць іх ува ўсёй ранейшай славе.

*Г. П.*



*Руіны царквы з XVI стаг.*

# НЯЧЫСЬЦІК

Таму ужо сто лет будзе,
Старые помняць то людзе;
Скажыць вам і Апанас:
Жыў, быў Мікіта у нас,
На самым канцу сяла:
Там яго хатка была.


L

Bibliotece Polskiéj w Paryżu, od Autora.

NIACZYŚCIK,

BALLADA BIAŁORUSKA.

NAPISAŁ

ALEXANDER RYPIŃSKI.

(Wyjątek z jego Poezij.)

Wydanie trzecie,

Дзяцей ня меў, хоць жанат,
А быў бедзен — не багат!
Багацтва ён усяго:
Імеў вепра аднаго,
Да не спажыў і таго!..
Ў-мясаед яго ня біў,
На прадаж кажуць карміў:
І так дваждаўся паста.

Душаж Мікіты праста!
Ён у сяле усім сват,
Суседам дораг як брат:
Суседкі яго любілі. —
А, чым маглі тым дарылі.
І вот — так ён сабе тлеў:
Іван зрабіў, Іван з'еў!

Часам, праўда, і упіўся:
Да з нікім ён не сварыўся!..
Тольказк на бяду сваю:
Імеў жонку, як зъмяю. —
Чы цьвяроза, чы п'яна,
Як ведзьма была яна,
Каб яе палярыж біў!
Ніхто яе не любіў!..

Чуць было запеў пятух:
Яна ўжо із хаты шух!
Нуж да Жыда ў-карчму беч!
А хто папаўся наўстрэч:
Тут крыку поўна было!
Аж прабудзіла сяло...

І муж пакою ня меў:
Ні ён выпіў, ні ён з'еў,
Ні праснуўся, ані спаў:
Штоб чорт ее не наслаў!
. . . . . . . . . . . .




Alexander Rypiński

# Аляксандар Рыпінскі ў Лендане (1849 – 1859)

Ня можна сказаць, каб Аляксандар Рыпінскі быў вялікім паэтам. Для многіх ён ня быў нават добрым беларусам. Як бы там ня было, аднак займае пэўнае месца ў гісторыі беларускай літаратуры 19-га стаг. і ўжо дзеля гэтага заслужыў на нашую ўвагу.

Аляксандар Радван-Рыпінскі нарадзіўся ў Беласелцы на Віцебшчыне.[1] Паходзіў з старой беларускай шляхоцкай сям'і.[2] Асьвету атрымаў у Віцебску ў школе, дзе панаваў моцны польскі дух. Яшчэ будучы вучнем у 1827 ён пачаў пісаць вершы папольску.

Ягонае дасканалае веданьне беларускай мовы і зацікаўленьне жыцьцём і культурай беларускага сялянства паказваюць на тое, што аставаўся ў цеснай сувязі з сваім народам.

Падзеі 1830 г. захапілі Рыпінскага маладым чалавекам. Ён шчыра аддаўся «польскай» справе змаганьня супроць Масквы і служыў у паўстанчай арміі ў чыне паручніка. Пасьля разгрому паўстаньня Рыпінскі ўцёк заграніцу і пасяліўся на нейкі час у Парыжы, які тады быў сапраўднай другой бацькаўшчынай усіх славянаў. Мала ведама аб ягоным жыцьці ў гэтым горадзе, хіба толькі тое, што ў 1839 г. прачытаў там рад лекцыяў у польскім выгнанчым літаратурным гуртку аб Беларусі, ейнай культуры, а ў асаблівасьці аб ейнай паэзіі і музыцы. Гэтыя лекцыі былі выданыя папольску ў 1840 г. пад загалоўкам «Бялорусь».[3]

У 1848 г. у Францыі выбухла паўстаньне, якое прывяло да стварэньня Другой Рэспублікі і да зьмены ўрадавай палітыкі ў адносінах да выгнанцаў. Многія з гэтых апошніх павінны былі шукаць новага месца жыхарства. Вялікая Брытанія дала гасьціну для 500 польскіх уцекачоў адразу пасьля паўстаньня 1830 г., дык цяпер вочы эмігрантаў з Парыжа зьвярнуліся ў бок гэтай краіны. Сярод іх быў і Аляксандар Рыпінскі. Дакладныя абставіны ягонага прыезду ў Англію няведамыя, але ўжо ў 1849 г. мы бачым яго ў Тотэнгам, які быў тады маленькім гарадком на паўночнай ускраіне Лёндану, а цяпер зьяўляецца прадмесьцем гэтага гораду. Прыемнае паложаньне і блізкасьць да сталіцы былі магчыма прычынаю таго, што ў палове 19-га стаг. у Тотэнгам было вельмі шмат школаў. Дзеля гэтага там было вялікае запатрабаваньне на настаўнікаў, асабліва дзеля навучаньня замежных моваў. Гэтую патрэбу маглі задаволіць эмігранты, многія з якіх мелі добрую асьвету і ўладалі некалькімі мовамі. Дык ня дзіва, што ў гэтым часе мы знайходзім у Тотэнтам калёнію польскіх настаўнікаў, між якімі былі і беларусы. Сярод настаўнікаў быў таксама сьвятар С. Бжэзінскі у «установе Mr. Hill у Bruce Castle, Tottenham».[4] Польскія і беларускія эмігранты атрымалі дазвол карыстацца з капліцы пры Бэльгійскай амбасадзе ў Лёндане, якая тады знайходзілася на London Road пры St. Georges Fields на паўднёвым беразе Тамізы. Айцец Бжэзінскі, які быў капэлянам польскай калёніі ў Лёндане, адправіў там першую Службу Божую на Сёмуху 1843 г.[5] Няма сумліву, што Рыпінскі бываў там часта ў часе свайго жыцьця ў Лёндане.

Пасяліўшыся ў Тотэнгам, Рыпінскі знайшоў там працу у Eagle House School недалёка ад West Green. Гэтая школа была заложаная ў 1841 г. і мела вельмі шмат чужынцаў сярод сваіх вучняў. Вось што кажа аб ей гісторык Тотэнгаму, Фрэдэрык Фіск: «Большасьць вучняў ў інтарнаце былі сынамі чужынцаў з добрых сем'яў; многія з іх прыхадзілі, ня ведаючы ніводнага слова паангельску».[6] Закладчык і кіраўнік школы Andrew Price наняў Рыпінскага як выкладчыка францускай мовы — якую гэты апошні ведаў вельмі добра, дзякуючы свайму жыцьцю ў Парыжы, — і рысаваньня.[7]

У 1851 г. Рыпінскі жыў у маленькім доміку на 3 Chances Row разам з сваім прыяцелем, Станіславам Руткоўскім, таксама выгнанцам. Ён тады рэкамэндаваўся, як «паручнік польскай арміі, цяпер мастак маляр, настаўнік францускай і нямецкай моваў і рысаваньня».[8]

Жывучы ў Тотэнгам Рыпінскі пазнаёміўся з Юліюшам Пшыемскім, выгнанцам як і ён і настаўнікам ў Гров Гауз Скул. Пшыемскі быў так-

[1] Krosnowski: „Almanach Historique“, Paris 1847, bač. 337.

[2] Рыпінскія, або Рпінскія, былі старажытным шляхоцкім родам з Віцебшчыны; адзін з продкаў Аляксандра, Багдан Рыпінскі, быў праваслаўным архіяпіскапам Полацкім, Віцебскім і Мсьціслаўскім у 1570 г.

[3] Białoruś — Kilka słów o poezyi prostego ludu tej naszej Polskiej prowincyi, jego muzyce, śpiewie, tańcach etc., przez Alexandra Rypinskiego, członka Akademii Przemysłu, rolnictwa, rękodzieł i handlu Francuskiego“, Paris 1840.

[4] Annual General Report of the Friends of Poland, London 1842, bač. 23.

[5] Annual General Report..., London 1843, bač. 25.

[6] Fred Fisk: „A History of Tottenham“, II Series, London 18..., bač. 171.

[7] Annual General Report..., London 1850, bač. 7; AGR 1857, bač. 19 & 22.

[8] Гл. The Census List for Tottenham 1853, што знайходзіцца ў London Record Office.

сама крыху паэтам і Рыпінскі прыводзіць некаторыя ягоныя вершы у прадмове да аднэй з сваіх паэмаў папольску.

У 1855 г. знайходзім зацемку аб падатках, якія Рыпінскі павінен быў плаціць за дом і гарод на 5 Grove Place, што знайходзіўся толькі пару крокаў ад школы. Відаць гэты дом быў ягонай собскасьцю. Гадавая рэнтавая вартасьць будынку была 20 фунтаў, што было нармальнай вартасьцю добрага дому на прадмесьці Лёндану ў тым часе.[9] У сваім доме Рыпінскі залажыў невялікую друкарню, дзе выдаваў ня толькі свае творы, але таксама надрукаваў прынамсі адзін нумар гадавой справаздачы з дзейнасьці Лёнданскага Таварыства Прыяцеляў Польшчы (1857 г.).

Літаратурная спадчына Рыпінскага ня ёсьць вялікай. Мы ўжо коратка ўспомнілі аб ягоных Парыскіх лекцыях. У Лёндане вышлі ў 1853 г. тры выданьні ягонай беларускай жартаўлівай паэмы «Нячысьцік». Паводле прызнаньняў самога аўтара, ён улажыў гэты твор на Рычмандзкім узгорку, рамантычнай мясцовасьці каля Лёндану. У трэцяе выданьне Рыпінскі ўвёў сыстэму націскаў дзеля аблягчэньня правільнай вымовы пабеларуску. У паэме гаворыцца аб бедным селяніне Мікіце, які ў Вялікі Пост забіў сьвіньню і нарабіў каўбасаў. Ён паслаў жонку па гарэлку, а сам таксама адлучыўся некуды на хвілінку. У часе іхняй адсутнасьці прышоў чорт і ўкраў сьвіньню і каўбасы. Жонка, прыйшоўшы і ўбачыўшы, што сталася, нападае на мужыка і жадае яму сьмерці. Яе жаданьне зараз-жа спаўняецца. Мікіта падае мёртвым, а агонь нішчыць усю хату. Мараль паэмы (калі наагул тут ёсьць якая мараль): ніколі ня есьці каўбасаў у Вялікі Пост . . .

Мастацкая вартасьць паэмы, якую аўтар называе .беларускай бальлядай», ня ёсьць вялікая. Ейны зьмест ёсьць няцікавы і верш слабы. Трэба аднак зазначыць, што мова твору добрая і досыць чыстая, а зьмест поўны сымпатыі да сялянства ў духу патэрналізму, які быў тады характэрным для некаторых колаў беларускай шляхты. Паводля Карскага, «Нячысьцік» — гэта спроба, ня вельмі ўдачная, аддаць дух народных забабонаў.[10]

Хоць Рыпінскі пісаў таксама і папольску, але гэтыя ягоныя творы ня маюць вялікай цікавасьці. Галоўнай ягонай заслугай было тое, што стараўся культываваць беларускую мову на чужыне, а таксама зьбіраў і распаўсюджваў весткі аб розных відах беларускай народнай творчасьці. Ды і самі палякі ўважалі Рыпінскага за беларускага паэту.[11]

Літаратура ня была адзінай галінай мастацкай дзейнасьці, якой займаўся Рыпінскі. Ён быў таксама энтузіястам фатаграфіі (якая была тады толькі ў сваіх пачатках) і нядрэнным мастаком-маляром. Абодвы гэтыя зацікаўленьні ня былі бескарыснымі. У 1867 г., магчыма дзеля падмацаваньня сваей ня вельмі вялікай настаўніцкай платы, ён рэклямуе сябе як прафэсіянальны фатограф.[12] Няведама нічога, што-б магло даць нам паняцьце аб дзейнасьці Рыпінскага ў гэтай галіне, хаця вельмі магчыма, што некаторыя ілюстрацыі да збору ягоных паэзіяў былі зробленыя ў ягонай студыі. Мы больш знаем аб мастацкіх здольнасьцях Рыпінскага, у галіне рысаваньня, бо да гэтага часу захаваліся гравюры з двух ягоных рысункаў, якія прадстаўляюць выгляд «акадэміі» Eagle House, дзе ён быў настаўнікам.







Пасьля 1858 г. мы не знайходзім больш вестак аб Рыпінскім у Лёндане. Праўдападобна ён вярнуўся ў гэтым часе на бацькаўшчыну, дзе памёр ў 1860 г. Школа Eagle House, дзе ён быў настаўнікам, ужо даўно разбурана і на ейным месцы высіцца цяпер будынак Тотэнгамскага тэхнічнага каледжу. Дом Рыпінскага 5 Grove Place стаіць яшчэ і яго можна бачыць з боку

[9] Гл. Rate Book for Tottenham 1855, што знайходзіцца ў Bruce Castle Museum, Tottenham.

[10] E. Karski: „Geschichte der Weissrussischen Volksdichtung und Literatur“, Berlin—Leipzig 1926, bač. 125—126.

[11] S. Orgelbrand: „Encyklopedia Powszechna“, T. XIII, Warszawa 1902, bač. 191.

[12] ARG 1857 in fine.

вуліцы High Street. У Тотэнгамскім музэю у Bruce Castle, у парку якога Рыпінскі напэўна часта гуляў, мы знаходзім яшчэ некалькі ўспамінаў аб ім: дзьве вышэйуспомненыя гравюры з ягоных абразоў, а таксама пасьведчаньне, упрыгожанае партрэтам каралевы Вікторыі, выданае Рыпінскім аднаму з вучняў.

Рыпінскі быў вельмі срога асуджаны гісторыкамі беларускай літаратуры за палянафільства, «рэакцыйнасьць» і «недэмакратычнасьць». Некаторыя нават сьцьвярджалі, што ён чыста выпадкова называўся беларускім паэтам.[13] Асабліва яму закідаецца, што ён называў беларускую мову дыялектам, а Беларусь — правінцыяй Польшчы. Было-б аднак няправільным закідаць Рыпінскаму палянафільства на гэтай аснове. З ягоных твораў, асабліва ў польскай мове, відаць, што Рыпінскі ўжываў назову «Польшча» не ў этнічным сэнсе, але ў сэнсе «рэчпаспалітай». У вельмі падобны спосаб сяньня Вялікая Брытанія зьяўляецца «рэчпаспалітай» ангельскага, шкоцкага і валійскага народаў. Адносна-ж слова «дыялект», дык у прошлым ён вельмі часта ўжываўся як сынонім слова «мова» (напр. славянскі дыялект). Сам Рыпінскі у адным месцы гаворыць аб «рускім і польскім простых дыялектах». Ён аднак без сумніву лічыў літоўцаў, украінцаў і беларусаў за асобныя народы, злучаныя з палякамі ў аднэй рэчпаспалітай з супольным змаганьнем супроць маскоўскага акупанта.

Калі ідзе аб ягоную «рэакцыйнасьць», дык варта памятаць словы паэты ў прадмове да ангельскага выданьня аднаго ягонага твору:

«Пераканаьне, якое паступова распаўсюдзілася і апошнім часам запусьціла карані сярод цывілізаваных народаў, што толькі нацыянальныя багацьці ёсьць годныя працы і часу сучаснага пісьменьніка і што толькі там ён павінен шукаць натхненьня і ідэяў, змусіла мяне напісаць гэты твор. Гэтай думкай я кіраваўся ў маей цяперашняй і прошлай творчасьці і я чэрпаў мае ідэі з поля нашага простага люду, так багата засеянага паэтычнымі і нацыянальнымі кветкамі. Так як у палітыцы сяньня народныя масы ўважаюцца адзінай праўдзівай і моцнай асновай урадаў і мерай існаваньня незалежных нацыяў, таксама і ў літаратуры нацыянальнымі могуць сяньня ўважацца толькі тыя творы, якія былі ўзятыя з жыцьця гэтых масаў, з глыбіні іхніх сэрцаў. Маючы гэта на ўвеце . . . у маей паэзіі не знойдзецца ніводнага месца, дзе-б я ня выкарыстаў якой жывой пагаворкі, ці не запазычыў некай думкі, з вуснаў нашага пачцівага сялянства, якое жыве на нашай польскай зямлі і гаворыць рознымі дыялектамі. Толькі такую паэзію лічу нацыянальнай... Усякая іншая паэзія ня дойдзе да сэрца народу».[14]

Ды нават памінаючы ўсё вышэй сказанае, было-б несправядліва судзіць Рыпінскага і іншых сучасных яму «палянафілаў» паводле нормаў нашага часу. Нават сяньня ёсьць сярод беларусаў нямала адукаваных адзінак, якія праяўляюць палянафільскія ці масквафільскія нахілы. У часе, калі жыў Рыпінскі, беларускае нацыянальнае адраджэньне было толькі ў сваіх пачатках і брутальная палітыка русыфікацыі, якую праводзіў маскоўскі царскі урад на Беларусі, была ў поўным разгоне. Дзеля гэтага мы не павінны дзівіцца з тых прадстаўнікоў беларускай шляхты, якія ў тым часе глядзелі на Польшчу, як на натуральнага саюзьніка ў змаганьні супроць Масквы. Ня гледзячы на ўсе свае недахопы, Рыпінскі быў далёка больш дадатняй фігурай з беларускага пункту гледжаньня, чым, скажам, Сымон Полацкі ці Адам Міцкевіч: ён прынамся ня цураўся сваей роднай мовы. На чалавека, які быў толькі прыпадковым беларусам, Рыпінскі выказаў зьдзіўляючае знаёмства і сталае зацікаўленьне культурай і мовай беларускага народу. Ён ня меў, здаецца, ніякіх ілюзіяў адносна сваіх паэтычных здольнасьцяў, аднак у апошнім ведамым нам ягоным вершыку адчуваецца іскра нацыянальнай гордасьці:

Ты-ж сам, суседзька, хацеў,
Што-б і я табе запеў;

Ну, я табе і пяю, —
Прымі песенку маю.

Можа гэта ня песьнь? каша?
Ды ўсёжтакі свая, наша![15]

Да дадатнай стараны ягонай дзейнасьці трэба безумоўна залічыць тое, што Рыпінскі, жывучы ў Парыжы і Лёндане, першы пачаў распаўсюджваць на Захадзе весткі аб Беларусі, яе мове і культуры. Хоць гэтая праца ў сваім часе не дала вялікіх вынікаў, тым ня менш яна мае сваё значэньне. Для беларусаў, якія сяньня жывуць на выгнаньні, асоба і дзейнасьць Рыпінскага прадстаўляюць немалую цікавасьць і таму яны павінны аднесьціся да яго з зразуменьнем і сымпатыяй, на якія ён заслужыў.

---

[13] С. Майхровіч: «Нарысы Беларускай Літаратуры XIX стагоддзя», Менск 1957, бач. 67; М. Гарэцкі: «Гісторыя Беларускай Літаратуры», Вільня 1921, бач. 69.

[14] Гл. заўвагі і выясненьні аўтара (паангельску) ў: „The Sergeant Philosopher — a Legend“, translated by H. Daniels, London 1856, бач. 43—44. Арыгінал паэмы (папольску) быў выданы аўтарам ў Лёндане ў 1853 г.

[15] Гэты вершык Рыпінскі напісаў у альбом А. Дарэўскаму-Вярызе у 1860 г. Гл. М. Гарэцкі: «Хрэстаматыя Беларускай Літаратуры», Вільня, бач. 102.

*Г. Піхура*

# 14-ты Кангрес «Царква ў Патрэбе»

Ад 31 ліпеня да 4 жніўня адбываўся у Кенігштайн ў Нямеччыне, чатырнаццаты Кангрэс, называны «Царква ў Патрэбе» (Kirche in Not). Праграмаю дакладаў і дыскусіяў была агульная тэма: «Суіснаваньне з камунізмам». Былі прачытаныя наступныя даклады:

1) Dr. Karol Hahn: Сьвет пасьля Энцыклікі „Pacem in terris".

2) Prof. Dr. S. A. Wetter: «Мірнае суіснаваньне паводле камуністычнага пагляду».

3) Айцец Ян Хрызастом: «Суіснаваньне рэлігіі і камунізму — на цярністым шляху праваслаўнае расейскае Царквы ад 1917 г.».

4) Д-р Ян Грынёх: «Цярністы шлях уніяцкае ўсходняе Царквы ад 1917 г.».

5) Д-р Казімір Ручс: «Мірнае суіснаваньне і доля лацінскае Царквы ў Савецкім Саюзе».

6) Мгр. Д-р Язэп Загон: «Царква ў Мадзяршчыне».

7) Д-р Ян Вангвэн: «Цярністы шлях Царквы ў Кітаі».

8) Вільгэльм Крээфтміер: «Работнікі Лацінскай Амэрыкі і камунізм».

9) Айцец Ян Гіоргіянні: «Камунізм у Італіі».

Канцлер Адэнаўэр, якога даклад таксама быў прадугледжаны ў праграме, дзеля хваробы ня прыбыў на Кангрэс. Замест яго прачытаў даклад ведамы айцец Вэрэнфрыед Ван Страатэн.

Ня ўсе даклады былі прыгатаваныя беззакідна. Аднак усе яны выказалі наглядна, што ад сьмерці Сталіна — так у Савецкім Саюзе, як і ў сатэліцкіх краінах — трывае і ўсьцяж узмацняецца рэлігійны прасьлед. Таму аб нейкай згодзе рэлігіі і камунізму (коэгзыстэнцыі) ня можа быць нават і гутаркі. Для камуністаў суіснаваньне — гэта толькі часовы мэтад прыязных слоў да варожых плянаў.

Ня раз таксама ўспаміналася ў дакладах, асабліва ў дакладзе а. д-р Грынёха аб прасьледзе рэлігіі ў Беларусі і Ўкраіне. Там сапраўды сілы пекла робяць усё магчымае, каб зачыніць апошнія сьвятыні, каб не дапусьціць моладзь да пазнаньня Бога.

У Кангрэсе прыймала удзел каля 700 чалавек ад 29 розных нацыяў. Сярод рэзалюцыяў варта зьвярнуць увагу на наступныя:

У апошніх гадох палажэньне хрысьціянства ў краінах дамінуючага камунізму не палепшылася, а наадварот, у некаторых пагоршала, як гэта сьцьверджана ў дакладах.



Таму Кангрэс прыпамінае ўсім, каб ня былі абманутыя г. назв. мірнай коэгзыстэнцыяй, якая сяньня на парадку дня. Камунізм заклікае да мірнай коэгзыстэнцыі ня дзеля таго, каб чэсна жыць адзін з другім, але як новы спосаб, каб зьнішчыць Царкву і наагул веру.

Камунізм у сваей сутнасьці — бязбожны і таму ня можа зжыцца з хрысьціянствам.

✳

На Кангрэсе было 20 чалавек беларусаў, у тым ліку і хлопцы лёнданскага Беларускага Інтэрнату Сьв. Кірылы Тураўскага.

У праграму Кангрэсу ўваходзілі таксама фальклёрныя выступы, урачыстыя набажэнствы за прасьледваныя народы.

Усюды беларуская група брала дзейны ўдзел, а наша моладзь атрымала на міжнароднай арэне заслужаныя воплескі. Беларускае духавенства рэпрэзэнтавалі: Яго Даст. Біскуп Ч. Сіповіч, пралат Уладыслаў Салавей, а. Леў Гарошка, а дзекан М. Маскалік і сэмінарыст Робэрт Патры-Тамушанскі.

Трэба ўспомніць аб мілым спатканьні нашай групы з пралатам Кіндэрманн, арганізатарам Кангрэсу і з а. Мітнахт, рэдактарам часапісу „Der christliche Orient", добрым прыяцелям беларусаў.

Душой беларускай групы быў а. пралат Салавей і яму тут належыцца шчырая падзяка.

*Прысутны З.*

# *Весткі з Рыму і са сьвету*

ВАТЫКАН: Павал VI ў Орвіето. 11 жніўня Павал VI, сеўшы ў гэлікоптэр, паляцеў у гор. Орвіето: гэта старадаўны горад некалькі сот кілям. на поўнач ад Рыму. Там 700 гадоў таму папа Урбан IV ўстанавіў сьвята Божага Цела 11 жніўня 1264 г. Там тады прабывалі вялікія грамады пабожнага народу. З Урбанам IV прыбылі туды слаўныя вучоныя тэалёгі, Сьв. Тамаш з Аквіну і Сьв. Бонавэнтура. Сьв. Тамаш укладаў там набажэнства і гімны да Найсьвяцейшага Сакраманту.

Папа Павал VI адправіў урачыстае набажэнства ў часьць Найсьв. Сакраманту (Сьвятых Дароў) і сказаў пропаведзь. Народ з радасьцяй вітаў Рымскага Папу, а мэр гораду прыслаў спэцыяльны памяткавы дыск як падарак. Характэрна, што мэр гор. — камуністы.

Гэта першы выпадак, што папа лётаў гэлікоптарам: дасюль ніводзін папа гэлікоптарам лётаць ня адважыўся.

✳

КАСТЭЛЬГАНДОЛЬФО — Папская летняя вілья — кілям. ад Рыму. Там ёсьць прыгожая сьвятыня, летняя рэзыдэнцыя, гарод і парк, обсэрваторыя і невялікая гаспадарка, а ў ёй расовыя каровы і куры. Недалёка цудоўна прыгожае возера Альбано.

Туды Рымскія папы перяжджаюць падчас гарачага лета на некалькі тыдняў адпачынку. Аднак поўнага адпачынку не даюць ім пілігрымы, якія наяжджаюць у Рым, бо ўжо ўвайшло ў звычай, як кажуць, немагчыма, каб хто «быў у Рыме, а Рымскага папу ня бачыў», дык летам зьвяртаюць у Кастэльгандольфо і становяцца на плошчы — чакаюць, каб папа даў ім з свайго бальконy багаславенства.

І вось сёлета здарыўся сам у сабе малаважны, але дасюль нябывалы факт, што камуністычная дырэкцыя партыі выдала камунікат з падзякай Рымскаму папе Паўлу VI за яго адзыў з нагоды сьмерці Пальміро Толіятті.

А было так: падчас апошняй хваробы Толіятті, які доўгія гады быў верхаводам камуністычнай партыі Італіі, якая вельмі заўзята змагалася з Царквою, Павал VI падчас набажэнства прызваў вернікаў маліцца за гэтага атэіста. Таксама пасьля ягонай сьмерці папа заклікаў вернікаў маліцца за душу вялікага ворага хрысьціянства...

Гэта ўсё выклікала зьдзіўленьне на сьвеце, ці тым фактам малітвы (15, VIII у Кастэльгандольфо) папа не нарушыў царкоўнага права?

Трэба адзначыць, што набажэнства публічна за атэіста ніхто не адпраўляў і ў пахаронах атэістычных духавенства ня мяшалася, але маліцца прыватна можна кажнаму, а навет належыць. А Толіятті быў чалавекам ахрышчаным — на няшчасьце апостатам, значыць, за такога тым пільней трэба маліцца, каб Бог быў яму міласьцівым.

✳

НІГЕР — рэспубліка ў Афрыцы — па рэчцы Нігер мае 3 мільёны жыхароў, пераважна музулманаў. Тут каталіцкая місія мае досыць добры грунт, хоць ёсьць значная перавага музулманаў і прэзыдэнт музулманін. 2. VII. 64 г. каталіцкая місія закладала вугольны камень пад будову катэдры ў гор. Ніямэй. На урачыстасьці прэзыдаваў Апостальскі Дэлегат Монсіньёр Маур, зьехалася некалькі біскупаў з суседзкіх рэспублікаў. Быў прысутны прэзыдэнт рэспублікі Дыёры Гамані з міністрамі музулманамі. Такім спосабам стварыўся праўдзівы «дыялёг» — паразуменьне з другімі рэлігіямі. Біскуп Нігеру Бэрліер сказаў у прамове: «Прысутнасьць музулманаў паказывае нам, што сьвецкая дзяржава не павінна адказывацца ад Бога, ні змагацца з Богам, але шанаваць сумленьне і рэлігійнае перакананьне, а гэта і ёсьць у Нігеры». Нядаўна музулмане закладалі свой мэчэт і каталікі прыходзілі на іхнае сьвята: цяпер каталікі закладалі сваю сьвятыню і сабраліся, як браты, шануючы адны другіх, музулмане.

Біскуп Бэрпіер цытаваў Коран (сурата 2-ая, верш 172):

«Справядлівасьць ня ёсьць толькі тое, што кіруеце свой твар на ўсход ці на захад. Але рэлігія палягае на веры ў Бога — ў Альляха, каб тварыць з любові да Бога належнае бліжняму, сіротам, пакорным, падарожным, бедным... каб даваць успамогу, выконваць забавязаньне і быць цярплівым ува ўсіх супраціўнасьцях».

Старшы духоўны музулманаў (імам) сказаў: «Вось 34 гады як прыбылі да нас айцы і мы ня маем нічога супраць іх: яны шануюць нашыя перакананьні, а мы іхнія. Нашыя дарогі розныя, але хто ідзе сваёй да канца, даходзіць да Бога. Усхвалім Бога, які жадаў, каб мы былі тут злучаныя сягоньня, каб Ён утрымаў паміж намі добрую лучнасьць. А тым, якія нас сяньня сюды запрасілі, жадаем, каб Бог ім памог у пачатай працы! Тыя, што любяць Бога, любяць адны другіх...»

Прэзыдэнт Рэспублікі Гамані Дыёр сказаў у прамове:

Каталіцкая Царква ў паходным маршу ня будуе на дзесяткі год, але на вякі, і яна фундуе свае будоўлі на нігерскай зямлі — катадральны сабор — якраз у тым часе, калі мы закладаем фундамант — першыя камені нашай будоўлі нацыянальнай, дык мы ня сумневаемся, што гэта ёсьць акт веры ў прышласьць Нацыі».

# З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ

Англія

## КУРС УСХОДНІХ СТУДЫЯЎ У ЛІВАРПУЛЬ

У выніку вялікага посьпеху «уік-энду» ўсходніх студыяў у Манчэстар у красавіку г. г. (гл. папярэдні нумар Б. Ш.), а. А. Надсон быў запрошаны правесьці падобны курс у Ліварпуль. Курс адбыўся 25-26 ліпеня г. г. Айцец Надсон прачытаў 5 дакладаў: «Бізантыйская Літургія», «Месца ўсходніх абрадаў у сьв. Царкве», «Усходняя духовасьць», «Праваслаўныя цэрквы» і «Паложаньне Царквы у СССР». Акрамя гэтага ён адслужыў дзьве сьв. Літургіі для ўдзельнікаў, у часе якіх амаль усе прыступалі да сьв. Прычасьця. Сярод вялікай колькасьці ўдзельнікаў можна было заўважыць групу старых знаёмых з Манчэстар, якія бралі ўдзел у папярэдняй канфэрэнцыі і цяпер прыехалі сюды, каб папоўніць свае веды аб усходнім Хрысьціянстве. Ангельская каталіцкая нацыянальная і мясцовая прэса дала шырокі разгалосак канфэрэнцыі, зьмяшчаючы аб ёй вялікія артыкулы і фатаграфіі.



*Удзельнікі калёніі*

## ЛЕТНЯЯ КАЛЁНІЯ ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ Ў ЛЁНДАНЕ

Толькі пасьпелі вучні школы сьв. Кірылы выехаць на канікулы ў Нямеччыну, як школьны будынак пачаў зноў напаўняцца дзецьмі, гэтым разам у большасьці дзяўчатамі, якія прыехалі сюды на летнюю калёнію. Калёнія гэтая была зарганізаваная супольным высілкам кіраўніцтва Школы сьв. Кірылы і Брадфардзкага Аддзелу ЗБВБ пры грашовай дапамозе Галоўнай Управы ЗБВБ. Яна трывала ад 2-га да 9-га жніўня. Бальшыня дзяцей была з Брадфарду, але былі таксама дзяўчаты з Ковантры і Лёндану ды ваколіцаў.

Восем дзён правялі дзеці разам у беларускай атмасфэры. Яны зьведвалі Лёндан: кармілі галубоў на Трафальгар Сквэр, бачылі зьмену гвардыі пры каралеўскім палацы, былі ў Парляманце, аглядалі эгіпскія муміі ў Брытанскім музэі, захапляліся сінім чыстым небам у... плянэтарыі... Ды ці-ж можна апісаць усе цуды, якія яны тут пабачылі?

Гарод пры школе сьв. Кірылы і Мар'ян Гаўз вабіў ня меньш, чым сам Лёндан. Тут можна было пагуляць у валейбол ці ў крокет, узьлесьці у хату на дрэве, паласавацца малінкамі, ці проста паляжаць на траве на сонцы. А што ўжо казаць аб каўбасках, бульбе і іншых смачных рэчах, якія дзеці самі пяклі на агні на сьвежым паветры!

Ды ня толькі гулялі дзеці. З гутарак, якія з імі меў а. А. Надсон, яны даведаліся шмат новага аб Беларусі і аб беларускіх забытках у Лёндане. Яны пачулі аб Яне з Літвы, які ў канцы 15-га стаг. заложыў друкарню ў Лёндане; аб паэце Аляксандру Рыпінскім, які ў прошлым стагодзьдзі жыў і працаваў у Тотэнгам, зусім блізка ад сяньняшняй школы сьв. Кірылы; аб скульптуры беларускага мастака М. Наўмовіча ў лёнданскай францускай царкве. Даведаліся яны таксама і аб жыцьці цяперашняй беларускай эміграцыі ў гэтым горадзе: аб ЗБВБ, Беларускім Доме, Мар'ян Гаўз, Школе сьв. Кірылы.

Кожны дзень дзеці пачыналі і канчалі супольнай малітвай пабеларуску, а ў нядзелі яны былі прысутныя на сьв. Літургіі ў царкве сьв. Пятра і Паўла ў Мар'ян Гаўз.



*Размова з гвардзейцам у Лёндаскім замку*

На заканчэньне калёніі, у сыботу 8-га жніўня вечарам дзеці зарганізавалі вогнішча, на якое запрасілі лёнданскіх беларусаў. Найбольшым посьпехам цешыўся выступ дзяўчат з Брадфорду, якія, у нацыянальных строях, выканалі некалькі беларускіх танцаў, між імі Лявоніху і Крыжачок. Далей пайшлі песьні, жарты і нават скокі цераз агонь... Вогнішча зацягнулася да позьнай ночы.

Час ляцеў хутка і дзеці не аглянуліся, як ужо трэба было зьбірацца ехаць дамоў. Выяжджалі яны добра адпачыўшы і аднгачасова пабагацеўшы духова. Усе яны моцна пастанавілі спаткацца ізноў на калёніі летам наступнага году.

Асаблівая падзяка належыцца спадарыні Г. Міхалюк, гаспадыні калёніі, і спадарству Бутам, без самаахвярнай працы якіх калёнія ніколі не магла-б даць тога вялікага посьпеху, якім яна можа пахваліцца.

### ПАЧАТАК НАВУЧАЛЬНАГА ГОДУ Ў ШКОЛЕ СЬВ. КІРЫЛЫ

Ужо ў нядзелю 30-га жніўня Школа сьв. Кірылы пачала напаўняцца вучнямі, якія вярталіся з канікулаў, каб зноў брацца за працу. Першыя прыехалі хлопцы з заграніцы, да якіх у працягу наступных дзён далучыліся сябры з Англіі. Большасьць іх — гэта старыя знаёмыя, некаторыя з якіх пачынаюць ужо свой чацьверты год у Школе сьв. Кірылы. Між імі можна было таксама бачыць некалькі новых твараў, крыху разгубленых незнаёмасьцю абставінаў новага жыцьця...

У нядзелю 6-га верасьня Дастойны Уладыка Часлаў Сіповіч, які завітаў нечакана на кароткі побыт у Лёндан, у саслужэньні з а. а. Л. Гарошкам і А. Надсонам, адслужыў урачыстую сьв. Літургію на пачатак новага школьнага году. Узяўшы за тэму казаньня словы Хрыста: «Пусьціце дзяцей і неперашкаджайце ім прыходзіць да Мяне» (Мт. 19, 14), дастойны Уладыка сказаў, што дзеці павінны ста-



рацца захаваць тую чысьціню душы, каб быць заўсёды годнымі жыць у еднасьці з Богам. Ён пажадаў вучням, каб у новым школьным годзе ня толькі вырасьлі большыя, але таксама паразумнелі і ўзбагацелі духова на славу Богу і на радасьць бацьком і настаўнікам.

## *З пісьмаў у Рэдакцыю*

ДА РЭДАКЦЫІ «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»

Перасылаю на Вашую рэдакцыю вось гэты артыкул, як адказ пастаўленага пытаньня Праваслаўным Беларусам у Вашым часапісе. Я ня супраць, каб і Вы яго надрукавалі ў сваім часапісе і напісалі на яго свой артыкул. Дазваляюцца скарачэньні і папраўкі.

Адначасна паведамляю Вас, што 1 верасьня 1964 г. буду я мець новае месца свайго жыхарства. Таму прашу перасылаць Ваш часапіс на ніжэй паданы адрас (часова) аж надашлю Вам сталы адрас ужо з Кліўлянду. Чамусьці Вашыя часапісы прыходзілі да мяне з Рыму, а ня з Лёндану,

Прывітаньне

А. АСІПОВІЧ
3517 W. 25th Str.
Cleveland 9, U.S.A.

*

АД РЭДАКЦЫІ: Вельмі дзякуем за артыкул і за Ваш ветлівы ліст: нас толькі дзівіць, чаму Рэдакцыя ня прыслала нам цэлага часапісу «Сіла Веры»? Вybачце, што ня можам друкаваць Вашага прысланага артыкулу, у якім вылічаныя гістарычныя і сучасныя каталіцкія грахі: нам толькі астаецца — біцца ў грудзі разам з публіканінам-мытарам і гаварыць: «Божа, будзь міласьцівы нам грэшным». Наагул мы адказаліся ад усякай палемікі, каб не зблытаваць яшчэ больш беларускіх спрэчак.

У прысланым праз Вас час. «Родные Перезвоны» асуджаюць папу Яна XXIII-га за тое, што прыняў бязбожніка Аджубея... Да пытаньня ў н. 84 «Божым Шляхам» дабаўляем пытаньне: ці Рэдакцыя «Сіла Веры» разам з гэтым часапісам можа асудзіць Самога Хрыста, што хадзіў у госьці да фарызэя, які ня даў і вады Яму на ногі?»

Гэты-ж Фарызэй належыў да грамады тых, што асудзілі Хрыста на сьмерць. Значыць, «памылка» папы Яна ня была такой ганебнай, а ўвесь сьвет называе яго «Добрым Янам».

І ў прысланым Вашым артыкуле з час. «Сіла Веры» рымскі папа названы два разы «Антыхрыстам». Ізноў ставім пытаньне: Што Вы скажаце аб тым, што Ўсяленскі Патрыярх спэцыяльна прыляцеў у Ерусалім, каб спаткацца з такім «Антыхрыстам» і абодвы кінуліся сабе ў абоймы — цалавацца — на вачах прысутнага духавенства Праваслаўнага і Каталіцкага і на вачах (праз тэлевізію) ўсяго сьвету?

І немагчыма сказаць, што гэта была памылка аднаго Сьвяцейшага Патрыярха, бо хутка былі з візытам у папы Паўла VI-га Патрыярх Ерузалімскі Праваслаўны і Патрыярх Армянскі.

З гэтых разважаньняў мы прыйшлі да думкі, што сапраўды «пара перарваць запозьненыя спрэчкі паміж праваслаўнымі і каталікамі»! Рэдактар «Б. Шл.» мог-бы паказаць няшчасны прыклад вёскі ў Слонімскім павеце, дзе беларусы каталікі — падчас перамены ўладаў — скаржылі праваслаўных польскай паліцыі, а правасл. скаржылі бальшавіком каталікоў... і так вынішчылі ўсю вёску! На іронію лёсу вёска называлася *Мілаване.*

Глупа рабілі-бы каталікі, каб стараліся «перамяніць», як кажа «Сіла Веры», праваслаўных. Мы самі гэта асуджаем і заклікаем да рэлігійнай развагі, да згоды нацыянальнай, да адбудовы нашай няшчаснай Бацькаўшчыны!!

*

Адносна рэлігі мы ўважаем, што кожны чалавек павінен верыць паводле сумленьня: перамяніць рэлігію трэба толькі тады, калі пазнае, што ягоная была непраўдзівай. Аднак грэх быў-бы прыймаць іншую рэлігію дзеля якіх рахункаў матар'яльных, ці каб дастаць развод, або пазбыцца абавязку споведзі і інш. Каб пазнаць праўду, трэба маліцца, радзіцца паважных людзей і дзеіць разважна — без пасьпеху, бяз нэрваў, без заўзятасьці або злосьці: ідзець аб тое, каб дагадзіць Богу, ані сабе ці людзям.

# РАЗМОВА З МАЦІ

*Я усё шукаю матчыну магілу*
*І не магу знайсьці пасьля вайны.*
*Дзе бэз буяў і крыж стаяў пахілы,*
*Сівыя адцвітаюць палыны.*

*На могільніку — бомбавыя ямы,*
*На соснах — абламаныя сукі,*
*Крышылі іх і «юнкерсы» і «рамы»,*
*І ў чорных павуках штурмавікі.*

*Цяпер спакой і ціша на пагосьце,*
*У добрую асеньнюю пару*
*Прыходжу я сюды, нібыта ў госьці,*
*І да зьмяркання з маці гавару.*

*Яна у памяці маёй жыве заўсёды,*
*Яна — ў крыві, у сэрцы і ў душы,*
*Здаецца, сьцеле лён у непагоду,*
*То месіць хлеб на досвітку ў дзяжы,*

*То абувае лапці на узмежку,*
*То ціхенька ўздыхае па начах,*
*І радасьці, і гора, і усмешку*
*Я пазнаю ў зажураных вачах.*

*Яна мяне люляла і лячыла,*
*Зьбірала зёлкі, травы і кару,*
*Яна мяне з маленства навучыла*
*Так гаварыць, як сёньня гавару.*

*Такою ў памяці і асталася маці,*
*Калі ішла сцяжынкай за сяло,*
*Калі зьбірала збожжа да зярняці,*
*Каб кожнае сцяблінкай узышло.*

*Напэўна, ў жыце, што шуміць сягоньня*
*І зіхаціць іскрынкамі расы,*
*Згінаюцца, калышуцца, гамоняць*
*З яе зярнят жывыя каласы.*

*Ты чуеш, маці, вось твае унукі,*
*З маленства ім цябе недастае.*
*Здаецца мне, што ў іх такія рукі*
*І валасы, і вочы, як твае.*

*Тваім унукам сьвет увесь адкрыты,*
*І сняцца ім сягоньня нездарма*
*Далёкія блакітныя арбіты.*
*Жыцьцё ідзе.*

*Жыцьцю канца няма.*

Сяргей Грахоўскі

«Полымя», № 7,
Ліпень, 1964.

## ЗВАРОТ ДА ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ

РЭДАКЦЫЯ ветліва прыпамінае ДАРАГІМ ЧЫТАЧАМ, што першыя 2-3 нумары «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» былі высыланыя як рэклямныя. Аднак значная частка нашых СУРОДЗІЧАЎ дабраахвотна прыслала аплату, зашто вельмі дзякуем!

Далей просім уважаць наступныя нумары «Божым Шляхам» як платныя і ласкава высылаць нам падпісную плату.

Грошы просім высылаць або на адрас РЭДАКЦЫІ, або на адрасы нашых КАЛЬПАРТЭРАЎ, як пададзена на вокладцы часапісу. — Хто высылае грошы ў лістох, ведама, крыху рызыкуе, але ангельская почта акуратна аддае лісты цэлыя і наагул грошы тут не прападаюць.

Чытачы, якія перасылалі нам свае заўвагі, просьбы ці жаданьні, маглі заўважыць, што Рэдакцыя ахвотна прыймае да сэрца іх патрэбы і стараецца ўсё выканаць паводле магчымасьці. За добрае слова і помач шчыра дзякуем! Мусімо адзначыць, што ў палітычныя спрэчкі мяшацца ня будзем, на лаянкі не адказваем і артыкулаў палемічных прыймаць ня можам.

Жадаем упэўніць Чытачоў, што наш часапіс — пры Божай ласцы — будзе выходзіць бяз перапынку і без спазьненьня.

ДАРАГІМ ЧЫТАЧОМ жадаем ад Госпада Бога ўсяго найлепшага!

РЭДАКЦЫЯ «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»

РЭДАКЦЫЯ перапрашае Паважаных Чытачоў, што № 86-ты «Божым Шляхам» выйшаў *спозьнены з прычыны нездароўя рэдактара.*

